А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік
для 2 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2011

УДК 821.161.3(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Р э ц э н з е н т ы:

доктар філалагічных навук, прафесар *А. І. Падлужны*;
кафедра пачатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі» (старшы выкладчык *Т. А. Няборская*);
настаўнік пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 23 г. Мінска» *В. В. Барздова*

## Умоўныя абазначэнні:

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — абагульняючыя пытанні і заданні да раздзелаў;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — слоўнік

**Вольскі, А. В.**

В71 Літаратурнае чытанне : падруч. для 2-га кл. устаноў агульн. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011. — 120 с. : іл.

ISBN 978-985-465-843-8.

**УДК 821.161.3(075.2=161.3)**
**ББК 83.3(4Беи)я71**

**ISBN 978-985-465-843-8 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-465-842-1**

# ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎСКАЯ, СВЯТАЯ...

*Пімен Панчанка*

## ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

*Васіль Вітка*

Якая, вы думаеце, самая цікавая кніга на свеце? Адразу не здагадаецеся. **Гэта кніга — зямля, на якой мы жывём і якая з першых гадоў жыцця штодня вучыць нас гісторыі, мове.** Штодня́ і штора́з адкрывае нам усё новыя і новыя словы.

Жывое асяроддзе акружае нас: жывёлы, птушкі, самыя малыя істоты, а таксама расліны, кветкі, дрэвы. І ўсе яны маюць свае імёны. Многа назваў існуе на зямлі. **Кожная яе мясцінка мае сваю назву.**

Чалавеку дорага месца, дзе ён нарадзіўся. Адкуль пачаўся род яго сям'і. І ўсе сляды, справы, памяць, што пакінулі аб сабе яго про́дкі. **Усё гэта, як нашу самую дарагую спа́дчыну, беражэ памяць зямлі.**

Нясе праз гады, праз вякі ў імёнах і назвах, у словах, у мове, у пада́ннях і леге́ндах.



Штодня́ — кожны дзень; з дня ў дзень.
Штора́з — кожны раз.
Про́дкі — людзі, якія жылі задоўга да нас.
Спа́дчына — тое, што пакінута папярэднікамі.
Пада́нне — вуснае апавяданне, якое здаўна жыве ў народзе.
Леге́нда — народнае паданне аб якой-небудзь гістарычнай падзеі, асобе.



1. Як вы разумееце назву раздзела «Зямля бацькоўская, святая...»?
2. Якая самая цікавая кніга на свеце? Пацвердзіце словамі з тэксту.
3. Як вы разумееце выдзеленыя выразы?
4. Раскажыце пра тыя мясціны, дзе вы жывяце. Якія яны носяць назвы? Можа, ведаеце чаму?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту.

## ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ

*Леанід Пранчак*

Бор спявае,
Сонца свеціць,
Жыта спее ў палях.
Прыгажэйшая на свеце
Беларуская зямля.

Падрастай,
Маленькі буслік,
І да воблакаў крыля́й.
Мы жывём у Беларусі —
Гэта наш спрадве́чны край.





Крыля́ць — махаць крыламі; узлятаць.
Спрадве́чны — вельмі стары; які існуе здаўна; старадаўні.



1. Ці спадабаўся вам верш? Чым?
2. У якіх радках верша аўтар піша пра прыгажосць беларускай зямлі?
3. Якія іншыя загалоўкі можна даць вершу?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пастарайцеся выдзеліць голасам тыя словы, якія ўслаўляюць «наш спрадвечны край».
5. Вывучыце верш на памяць.

## Загадка

Што нас корміць, а есці не просіць?

## ЗЯМЛЯ МАЯ

*Ніна Галіноўская*

Зямля мая азёрная,
Рабіна за акном.
Крынічка ціхамоўная,
Гасцінны, ве́тлы дом.

Іду жытнёвай сцежкаю —
Мне звоняць жаўрукі,
Блакітнаю ўсмешкаю
Вітаюць васількі.

Ты працаю славутая,
Карміцелька-зямля.
**Цярплівая, паку́тная,**
**Ты назаўжды мая.**



Ве́тлы — тое, што і ветлівы.
Паку́таваць — мучыцца.



1. Якія малюнкі вы ўявілі, чытаючы верш?
2. Чаму аўтар называе зямлю карміцелькай?
3. Як вы разумееце выдзеленыя радкі верша?
4. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.
5. Вывучыце верш на памяць.

## Прыказкі

Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Чалавек без Радзімы, што салавей без песні.



Як вы разумееце сэнс прыказак?

## НАША РАДЗІМА

*Георгій Пачапцоў*

Радзіма — гэта тая зямля, на якой ты нарадзіўся, дзе нарадзіліся і твой дзед, і твой бацька, і ўсе мы.

Радзіма — гэта твой родны горад ці сяло, вуліца, дзе стаіць твой дом ці твая хата. Гэта твая школа і твой клас.

Радзіма — адзіная ў нас, як маці. Яе вочы васільковыя — то сінія азёры, то блакітныя плёсы рэчак. Як магутныя працоўныя рукі — яе заводы і фабрыкі. Тут выпускаюць аўтамабілі і трактары, цепла-



возы і станкі, халадзільнікі і тэлевізары. На яе бязмежных прасторах вырошчваюць збожжа, лён, бульбу.

Радзіма — гэта і песня, вясёлая і журботная. Песня яднае нас, бо яе хораша спяваць разам.

Гэта і зялёная трава, па якой можна бегаць і спяваць, на якой можна ляжаць і глядзець у неба. Там плывуць белыя воблакі. «А-у-у, я тут!» — можна крычаць ім услед.

І ў полі, і на лузе, і на спартыўнай пляцоўцы — табе ўсюды хораша. Бо ты дома, на сваёй зямлі. Навокал мая, твая, наша Радзіма.



Плёс — шырокі ціхі ўчастак ракі паміж перакатамі або астравамі.



1. Чым з'яўляецца Радзіма для кожнага чалавека? Як аб гэтым гаворыць пісьменнік?
2. Чаму нам усюды хораша? Зачытайце.

*3. Пры чытанні тэксту перадайце пачуцці гордасці, адказнасці, радасці і задавальнення.

## НЕПАЎТОРНЫ КРАЙ

*Артур Вольскі*



То ялінкі, то сасонкі
падпіраюць небакрай...
Прыгажэйшае старонкі
не знайсці, як ні шукай.
Скачуць сонейка асколкі
пасля дожджыку ў вадзе.
Весялейшае вясёлкі
не пабачыш анідзе.
Пахне збожжа свежым
хлебам.
Сыпле золата жніво.
Жаўрукі звіняць
пад небам —
славяць свету хараство.
На бярозе — белы бусел.
Пад бярозаю — ручай.
А завецца БЕЛАРУССЮ
Непаўторны родны край.



1. Што ўслаўляе паэт у вершы?
2. Як завецца гэты «непаўторны край»?
3. Чаму ён родны для нас?

4. Якія малюнкі можна зрабіць да верша?
5. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пры чытанні ўслых пастарайцеся перадаць голасам свае пачуцці.

## Я — БЕЛАРУС МАЛЕНЬКІ

*Мікола Маляўка*

Я — беларус маленькі,
Дарос ужо да школы.
Як і бацькі, сумленны,
Руплівы і вясёлы.



Я — беларус маленькі
З блакітнымі вачыма.
Хачу і я, каб лепей
Жыла мая Радзіма.

Я — беларус маленькі.
Люблю блакіт і сонца.
З Радзімай пасталéю,
Радзімы — абаронца.



Пасталéць — стаць сталым, памужнелым.



1. Хто герой верша? Якім вы яго ўявілі?
2. Знайдзіце радкі, якія характарызуюць хлопчыка. Зачытайце.
3. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання: пастарайцеся перадаць голасам пачуццё любові да Радзімы.
4. Вывучыце верш на памяць.



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Зямля бацькоўская, святая...»**.

1. З якіх твораў узяты гэтыя словы:
   а) «Чалавеку дорага месца, дзе ён нарадзіўся. Адкуль пачаўся род яго сям'і»;
   б) «Радзіма — адзіная ў нас, як маці. Яе вочы васільковыя — то сінія азёры...».
2. Аднавіце прапушчаныя словы:
   а) «Як і бацькі, сумленны,
   Руплівы і ...»;
   б) «Зямля мая азёрная,
   Рабіна ...»;

в) «Падрастай,
Маленькі буслік,
І да воблакаў ...».

3. Назавіце аўтараў наступных радкоў:
   а) «Я — беларус маленькі...»;
   б) «Бор спявае,
   Сонца свеціць...»;
   в) «На бярозе — белы бусел.
   Пад бярозаю — ручай...».
4. Што агульнага вы заўважылі ў вершах Леаніда Пранчака, Міколы Маляўкі, Ніны Галіноўскай? Зачытайце.
5. Падумайце над сэнсам прыказкі: «У чужой старонцы не так свеціць сонца». Як вы яе разумееце?

*6. Паразважайце, чаму трэба цаніць і берагчы спадчыну.

7. Падрыхтуйцеся да правядзення конкурсу на лепшага чытальніка вершаў з раздзела «Зямля бацькоўская, святая...».

# ДУША НАРОДА Ў ПЕСНЯХ, КАЗКАХ ТЫХ ЖЫВЕ...

## КАЛЫХАНКІ

- Калыханка — гэта песня, якую спяваюць, калі закалыхваюць дзіця.

* * *

Люлі, люлі, люлі...
Палез кот па дулі,
Адмарозіў лапку,
Прыйшоў грэцца ў хатку.

Недзе кату дзецца,
Лапачцы пагрэцца...
Узлез бы на палаткі,
Ды баіцца бабкі.





* * *

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
А котачка адняла
Ды дзіцяці аддала.

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому з’есці,
Ці дзіцяці знесці?



Думаў каток, думаў,
Думаў ды надумаў:
«І сам разок укушу,
І дзіцяці занясу».



1. Якія запевы ўжываюцца ў калыханках? Прачытайце.
2. Якія вобразы сустракаюцца найчасцей у калыханках? Пацвердзіце словамі з тэкстаў.
3. Завучыце адну з калыханак на памяць.
4. Якія іншыя калыханкі вы ведаеце? Паспрабуйце праспяваць іх.
5. Спытайце ў сваіх мам, бабуль, якія песні-калыханкі яны спявалі для вас. Запішыце.

## ПЕСНІ

- Песня — гэта вершаваны і музычны меладычны твор, які прызначаны для спявання.

Песні з’явіліся вельмі даўно. Свае песні народ звязваў з клопатам пра ўраджай, з нялёгкай сялянскай працай, з вясёлымі святамі і гульнямі. Спявалі таксама песні пра з’явы прыроды, поры года — зіму, вясну, лета і восень. У песнях заклікалі вясну, славілі цёплае лета.

Вясёлыя песні гучалі зімой падчас Новага года, Каляд. Хлопцы і дзяўчаты хадзілі па дварах і спявалі калядныя песні. У канцы лютага ці пачатку сакавіка адзначалі свята Масленіцу. Вясёлымі песнямі праводзілі зіму, пяклі бліны, каталіся на санках. У сакавіку людзі пяклі з цеста чубаценькіх птушак. Потым выходзілі на вуліцу і як мага вышэй падкідвалі іх угору. Спявалі вясновыя песні-заклічкі, «гукалі вясну».

## ДАЖЫНКАВАЯ

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала,
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта дажала.
Перамерзла шэра перапёлка
Глыбока ў крыніцы,
У сцюдзёнай вадзіцы.
Перамерзла наша гаспадынька
Без жытняга хлеба,
Без кіслага квасу.
Радзей таго наша гаспадынька,
Што жнеек сабрала
І жыта дажала.



## КАЛЯДНАЯ

Прыехала Каляда на сваім коніку,
Паставіла коніка ў адры́нцы,
Сама села на куце ў пярынцы,
Паставіла дудачкі на стаўпе:
Грайце, дудачкі, голасна,
Скачыце, дзетачкі, хораша.





Адры́на — будыніна для захоўвання кармоў, сельскагаспадарчага інвентару.
Стоўп — калона, слуп.

## МАСЛЕНІЧНАЯ

А мы на Масленіцу чакалі
І ў ваконца паглядалі,
Гару сырам набівалі,
Зверху маслам палівалі.
А ад сыру — гара сыра,
А ад масла — гара ясна.
А на двары сняжкі
сыплюць,
А нас мамкі дамоў клічуць.



## ВЯСНОВАЯ

Жавароначкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце,
Каб сонейка засвяціла,
Каб снег белы растапіла,
Каб садзікі расквяціла.

Жавароначкі, прыляціце,
Зямлю-матухну абудзіце
І дождҗыкам напаіце,
Каб травачкі нарасціла,
Каб волікаў накарміла.



## Купальскія песні

- Свята Івана Купалы адзначаецца з 6 на 7 ліпеня, у самую кароткую ноч лета. Дзяўчаты і хлопцы скачуць праз вогнішча, спяваюць песні, шукаюць кветку шчасця — папараць.

### КУПАЛІНКА



Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая дочка ў садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець,
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.



1. Пра што спяваў народ у сваіх песнях? Адказы пацвердзіце словамі з тэкстаў.
2. Якая песня вам найбольш спадабалася? Чым?
3. Чаму песні названы «Дажынкавая», «Вясновая», «Калядная»?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання песень «Дажынкавая» (I варыянт), «Вясновая» (II варыянт).
5. Вывучыце песню «Купалінка» на памяць і праспявайце яе хорам.

## ПЕСЕНЬКІ

- Песенька — кароткая дзіцячая песня.

* * *

Сядзіць сыч на капе,
А сава — на другой.
Гой-гой-гой! — на другой,
Гой-гой-гой! — на другой.
У савы сыч пытае:
— Хто ў лесе гукае?
Гу-гу-гу! — гукае,
Гу-гу-гу! — гукае?
— Дрывасекі мае
Сякуць лес у мяне.



* * *



Наляцелі гусі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі думаць і гадаць,
Чым дзіця частаваць:
Ці кашкаю, ці мядком,
Ці салодзенькім
малачком?



1. Якая з песенек вам найбольш спадабалася?
2. Прачытайце выразна першую песеньку і паспрабуйце праспяваць яе.
3. Вывучыце адну з песенек на памяць.

## ЗАКЛІЧКІ

- У за́клічках людзі звычайна звяртаюцца да вясны і лета, да сонца і ветру, да дажджу і вясёлкі, да жывёл і раслін.

* * *

Прыйдзі, прыйдзі, вясна,
Прыйдзі, прыйдзі, красна,



К нам у тано́чак,
Прынясі нам збожжа,
Прынясі нам красак,
Каб нам звіць вяночак.



Тано́чак — ад слова «танец», звычайна выкарыстоўваецца ў народных песнях; карагод.

* * *

Сонейка, сонца,
Выглянi ў аконца,
Пасвяцi нам трошку,
Дам табе гарошку!



* * *

Ідзі, ідзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку,
Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю,
Сама пакаштую,
Цябе пачастую.



1. Пра што гаворыцца ў заклічках? Да каго ці да чаго звяртаюцца ў іх людзі?
2. Чаму многа ўвагі надавалася з’явам прыроды?
3. Прачытайце заклічкі самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
4. Вывучыце адну з іх на памяць.

*5. Складзіце, па магчымасці, сваю заклічку.

## ЗАБАЎЛЯНКІ-ПАЦЕШКІ

- Забаўлянкі-пацешкі — гэта невялікія вершы, якімі матулі ці бабулі звычайна супакойвалі або цешылі дзяцей.

* * *

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень.

* * *

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла,

На прыпечку студзіла,
Памялом мяшала,
Памялом давала.
Гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала.
А гэтаму не дала:
— Ты, малы, круп
не драў,
Вады не насіў,
Цеста не мясіў.
Ідзі, малы, па вадзіцу
У сцюдзёную крыніцу,
За пень, за калоду
Па жывенькую воду!







1. З якім настроем вы чыталі забаўлянкі-пацешкі? Якая з іх найбольш вам спадабалася? Чаму?
2. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання адной з забаўлянак-пацешак (на выбар).
3. Вывучыце адну ці дзве забаўлянкі-пацешкі на памяць і раскажыце сваім бацькам, родным, сябрам.

## ЛІЧЫЛКІ

• З даўніх часоў дзеці любілі вясёлыя, шумныя гульні. Многія з іх суправаджаліся песнямі, загадкамі, лічылкамі. Лічылка — верш з лічэннем у дзіцячай гульні.

* * *



Пятро, Пятро,
Падай вядро.
Карове піць —
Табе жмурыць.

* * *

Каціласа торба
З вялікага горба.
А ў той торбе —
Хлеб, пшаніца.
З кім ты хочаш
Падзяліцца?





1. Калі вы карыстаецеся лічылкамі?
2. У якім тэмпе чытаюцца лічылкі? Пацвердзіце прыкладамі, прачытаўшы адну з іх.

3. Прачытайце лічылкі самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
4. Завучыце адну-дзве лічылкі на памяць (па жаданні).
*5. Складзіце сваю лічылку і перакажыце яе бацькам, сябрам.

## У ЗІМЫ І ЛЕТА — СВАЕ ПРЫКМЕТЫ

- Прыкметы — адметныя рысы, па якіх можна што-небудзь вызначыць.

Гусі ляцяць нізка — зіма блізка, а высока — зіма далёка.

Вароны і галкі садзяцца на верхавіны дрэў — на мароз.

Снег наліпае на дрэвы — будзе цёпла.

Грак на гары — вясна на двары.

Зімою частыя адлігі — жыта ўродзіцца дрэннае.

Кот ляжыць сярод хаты — будзе цёпла, а спіць на печы — да марозу.

Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць.

У лютым дажджы — мокрыя вясна і лета.

Мокры май — будзе жыта як гай.

Удзень горача, уночы холадна — да добрага надвор'я.

Ноч без расы — дзень з дажджом.

Вясёлка раніцай — на дождж, вечарам — на добрае надвор'е.

Камары таўкуцца — на добрае надвор'е.

Сена моцна пахне — уночы дождж ахне.

Жабы скачуць на беразе і ўдзень крэкчуць — чакай дажджу.

Гром у верасні — на цёплую восень, кастрычніцкі гром — на бяссснежную зіму.

Багаты ўраджай жалудоў на дубах — на цёплую зіму.



1. Як вы разумееце сэнс загалоўка?
2. Прачытайце самі сабе прыкметы. Якая з іх вам запомнілася? Зачытайце.

3. Прачытайце прыкметы, у якіх гаворыцца пра розныя поры года. Спачатку – пра восень, потым – пра зіму, затым – пра вясну і, нарэшце, – пра лета.
4. Вывучыце на памяць прыкметы пра восень.

*5. Складзіце невялікае апавяданне, выкарыстоўваючы адну з прыкмет пра восень.

## ЦІ ТО СМЕХ, ЦІ ПАЎСМЕХУ

На жарты крыўдаваць
не варта.

* * *

С ы н. Тата, сёння я адзін ва ўсёй школе мог адказаць настаўніку.

Б а ц ь к а. А што ён пытаў, сынок?

С ы н. Хто разбіў акно?

* * *

— У якім вуху звініць?

— У левым.

— Не, не ўгадаў. У пра-а-а-вым.

— Значыцца, ты і сам ведаеш. Дык навошта пытаўся?

* * *

— Чаму ты перад сном прычэсваешся?

— Трэба. Бывае, сасню, што я ў гасцях, дык сорамна будзе не-пры-ча-са-на-му.

* * *

М а ц і. Чаму ты, сынок, нічога ў пару́ не робіш? Помні, што адклад не ідзе на лад.

С ы н. Ах, калі так, мамачка, дык тады дай мне сягоння тыя цукеркі, што ты схавала на заўтра.

* * *

— Вось каб мне такія доўгія вушы, як у зайца, тады я вельмі лоўка падхопліваў бы ўсе падказкі, — заўважыў Коля.

— Не, не згодзен, — запярэчыў Вася. — Доўгія вушы доўга трэба мыць.

* * *

— А што, Янук, спадабалася табе новая настаўніца?

— Ды яна, мама, нічога сабе: прыгожанькая і не старая. Але, мусіць, яна мала вучылася, бо пра ўсё пытаецца ў мяне.



1. Як вы думаеце, чаму на жарты крыўдаваць не варта?
2. Замяніце адным словам выраз «гаварыць або рабіць што-небудзь несур'ёзна, са смехам, для пацехі».
3. Чаму раздзел падручніка названы «Ці то смех, ці паўсмеху»?
4. Прачытайце жарт, які вас найбольш рассмяшыў.
5. Размяркуйце адзін з жартаў па ролях і праінсцэніруйце яго.

*6. Складзіце самі жарт і перакажыце сябрам, бацькам.

## СКОРАГАВОРКІ

Ехалі з горкі скорагаворкі.
*Уладзімір Мазго*

- Скорагаворка — жартаўлівая фраза, пабудаваная на спалучэнні гукаў, якія робяць цяжкім яе вымаўленне.

Адна сарока — адна марока, сорак сарок — сорак марок.

Дзятлы дзюбамі дзяўблі дзераві́ну.

Ехаў Грэка цераз рэку.
Бачыць Грэка — у рацэ рак.
Сунуў Грэка руку ў рэку,
Рак за руку Грэку — цап.

Каласы каласавалі, каласавалі ды выкаласаваліся.

Карл у Клары ўкраў каралы.

Пекар Пётр пёк пірог.

Рабая курка дзяўбе крупы.

Стругаў, стругаў, не дастругаў, стаў дастругваць — перастругаў.

Ткач тчэ тканіну на хустку Антаніне.

Лянок не любіць лянот, лянот не любіць лянок.



1. Прачытайце самі сабе скорагаворкі. Зачытайце тыя, што найбольш спадабаліся.
2. Прачытайце хорам скорагаворкі пра працу.

3. Вывучыце адну-дзве з іх на памяць і прагаварыце спачатку самі сабе, а потым некалькі разоў уголас.
4. Навучыцеся чытаць скорагаворкі хутка і без памылак.

## ЗАГАДКІ З РОДНАЙ ХАТКІ

- Загадка — гэта кароткае апісанне якога-небудзь прадмета ці з'явы, якія трэба пазнаць, адгадаць.

Што ў вадзе родзіцца і ў вадзе расходзіцца?

Новая пасудзіна, а ўся ў дзірках.

Сядзіць Пахом на кані вярхом. Сам непісьменны, а чытаць дапамагае.

Насупіцца, нахмурыцца, у слёзы ўдарыцца — нічога не застанецца.

Прыйшла чорна маці, усіх паклала спаці.

Што гэта за вочы: адно свеціць удзень, а другое — уночы?

Кругленька, залаценька — усяму свету міленька.

На паляне сіняй пасецца конь сівы.

Што размаўляе на ўсіх мовах?

Хоць малая, ды дужая: з сабой хату носіць.

Што гэта за свінка: на спіне дзеравяшка, на жываце шчацінка?



1. Прачытайце загадкі і паспрабуйце адгадаць іх.
2. Адказы зверце з адгадкамі, што змешчаны на с. 115.
3. Якая з загадак аказалася для вас самай лёгкай? А самай складанай? Чаму?
4. Вывучыце некалькі загадак на памяць і загадайце іх сябрам, бацькам, знаёмым.

*5. Паспрабуйце самі скласці загадку і загадайце яе аднакласнікам на ўроку.

## Загадкі-жарты

Што гарыць без агню?

Што бяжыць без ветру?

Хто ляціць без крылаў?

Што без вады плавае?

Хто малюе без рук і алоўка?

Які год цягнецца адзін дзень?

На што каню хаму́т кладуць?

Які ў моры камень?

Без чаго хаты не пабудуеш?

Пад якім кустом сядзіць заяц, калі дождж ідзе?



Хаму́т — збруя для каня.



1. Прачытайце загадкі-жарты і паспрабуйце адгадаць іх. Адказы зверце з адгадкамі ў канцы падручніка на с. 115.
2. Зачытайце тыя загадкі, якія найбольш вас зацікавілі.
3. Правядзіце гульню «Не памыляйся!», выкарыстоўваючы гэтыя загадкі.
4. Прачытайце апошнюю загадку і намалюйце да яе словамі карцінку.

*5. Якія загадкі-жарты вы яшчэ ведаеце? Папытайцеся дома ў сваіх родных, якія загадкі ведаюць яны. Запомніце і загадайце іх у школе.

## Загадкі-задачы

Хто паможа, хто падкажа,
хто задачу развяжа?

*Васіль Вітка*

* * *

Сядзяць у крузе чатыры кошкі, супраць кожнай па тры кошкі. Колькі кошак разам?

* * *

Ляцелі дзве чарады гусей. Першая чарада кажа:

— Дайце нам адну гусь, тады нас будзе пароўну.

А другая чарада кажа:

— Дайце вы нам адну гусь, тады нас будзе ў два разы больш.

Колькі гусей у адной і ў другой чарадзе?

* * *

Які бацька штодня дзяцей пералічвае?

* * *

Што ў першы дзень года пачынаецца, а ў апошні канчаецца?



1. Прачытайце загадкі-задачы. Адгадайце іх. Адказы зверце з адгадкамі на с. 115.
2. Знайдзіце задачу з дыялогам. Размяркуйце ролі і прачытайце па асобах.
3. Зрабіце ў сшытку малюнак па ўмове першай задачы.

*4. Складзіце адну-дзве загадкі-задачы і загадайце на ўроку.

## ПРЫКАЗКІ

Трапнае слова —
мудрасці аснова.

• Прыказка — кароткае народнае выказванне павучальнага зместу.

Адклад не ідзе ў лад.

Адна пчала мёду не наносіць.

Вясенні дзень год корміць.

Гультай за работу — мазоль за руку.

Добра таго вучыць, хто хоча ўсё ведаць.

Добраму чалавеку ўсюды добра.

Добры чалавек і сабакі дражніць не будзе.

З вялікай хмары малы дождж.

З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.

І ў вераб’я ёсць сэрца.

Кніга — маленькае аконца, ды праз яго ўвесь свет відзён.

Маслам кашы не сапсуеш.

Навука вочы адкрывае.

Навуку за плячыма не носяць.

Найлепшая вадзіца з роднай крыніцы.

Не хвалі сябе, хай людзі пахваляць.

Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Рана ўстанеш — многа зробіш.

Хто язык доўгі мае, таму дрэнна бывае.

Які куст, такі і парастак.



1. Як вы разумееце выраз: «Трапнае слова – мудрасці аснова»? Падмацуйце свае адказы прыкладамі.
2. Прачытайце самі сабе прыказкі на літару А (I варыянт) і на літару Д (II варыянт) і падрыхтуйцеся чытаць іх уголас. Якія думкі выказаў народ у гэтых прыказках?
3. Вывучыце на памяць дзве-тры прыказкі (на выбар) і падрыхтуйцеся растлумачыць іх сэнс.

*4. Выберыце адну з прыказак і паспрабуйце па ёй скласці невялікі тэкст, уключыўшы ў яго гэтую прыказку.
5. Спытайцеся ў сваіх бацькоў, якія яны ведаюць прыказкі. Запішыце адну з іх і перакажыце яе ў класе.

## НАРОДНЫЯ КАЗКІ

Завітала ў госці казка —
Сустракайце, калі ласка!
*Уладзімір Мацвеенка*

- Казкі ўзніклі вельмі даўно. Яны складаліся людзьмі і перадаваліся з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне. Таму яны называюцца народнымі. Казка — твор пра выдуманыя падзеі, нярэдка з удзелам чарадзейных, фантастычных сіл.

### КУРАЧКА-РАБА

Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка-раба. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды

паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся.

Плача дзед, плача бабка, курачка кудахча, вароты скрыпяць, трэскі ляцяць, сарокі трашчаць, гусі крычаць, сабакі брэшуць.

Ідзе воўк:

— Дзедка, бабка, чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Была ў нас курачка-раба. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся.

І воўк завыў.

Ідзе мядзведзь:

— Воўк, чаго выеш?



— Як жа мне не выць? Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка-раба. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся. Плача дзед, плача бабка, курачка кудахча, вароты скрыпяць, трэскі ляцяць, сарокі трашчаць, гусі крычаць, сабакі брэшуць... А я брахаць не ўмею, дык і завыў.

Выслухаў мядзведзь казку і адарваў сабе хвост. З таго часу жыве з куртатым хвастом.



1. Чаму гэты твор называецца казкай? Што ў ім казачнае?
2. Чаму дзед і бабка так гаравалі?
3. Зачытайце радкі тэксту, у якіх гаворыцца пра гора дзеда і бабкі.

*4. Якую ролю выконваюць паўторы ў казцы? (Яны дапамагаюць зразумець глыбіню гора дзеда і бабкі, іх заклапочанасць далейшым жыццём.) Прагаварыце паўторы хорам.

5. Назавіце герояў казкі. Размяркуйце тэкст па ролях і прачытайце яго.
6. Перакажыце казку.

## ЗАЙЧЫКІ

*Апрацоўка Якуба Коласа*

Селі два зайчыкі ў лясочку пад бярэзінкаю, грэюцца на сонейку і гутараць.

А ў лясочку так добранька!.. Мушкі гудуць, адна за адною ганяюцца, крыльцамі звоняць, як бы смяюцца. А там дроздзік пасвіствае, хлопчыка Піліпку падражнівае:

— Піліп! Піліп!

А Піліпка па верасочку з кошыкам ходзіць, на баравічкі прыглядаецца.

Яшчэ далей зязюлька кукуе.

Ну так ясна, цёпла, весела!

Але нявесела зайчыкам, невясёлыя гутаркі іх.

— Ох, якая горкая долечка наша, — кажа адзін зайчык. — Бойся кожны дзянёчак, трасіся кожную часінку, хадзі, прыслухоўвайся, ці не ходзіць вораг твой блізка.

— А колькі ў нас ворагаў! Хто толькі не крыўдзіць нас, бедных зайчыкаў!

— Крыўдзяць нас людзі, крыўдзяць звяры; нават птушкі-драпежнікі — каршуны, совы, пугачы — і тыя нас, зайчыкаў, ушчуваюць.

— І як бараніцца нам ад злых нашых ворагаў? Чым ратавацiся? Адна толькі надзея на нашы ножкі: вы́бавяць з бяды — наша шчасце, а не выбавяць — прапала наша шкурка!

І заплакалі горкенька зайчыкі. Плачуць і слёзкі лапкамі выціраюць.

— Ці ж можна нам жыць на свеце? — кажа другі зайчык.

— Ніхто не баіцца нас, ну ніхтосенькі! Пойдзем хіба ды ў ваду кінемся.



Наплакаліся, надумаліся бедныя зайчыкі і пайшлі ў возера тапіцца з гора. Прыйшлі да возера, прыпыніліся, развіталіся. Да самага беражка падышлі, каб у ваду кінуцца, аж бачаць — скок жаба на купіну: убачыла зайчыкаў і спалохалася.

— Эге, — кажа адзін зайчык, — ёсць жа на свеце стварэнні, што і нас баяцца. Відаць, ім яшчэ цяжэй на свеце жыць.

Глянулі зайчыкі адзін на аднаго і пабеглі назад.



1. Як у вас мяняўся настрой, калі вы слухалі казку?
2. Якую невясёлую гутарку вялі зайчыкі?
3. Якімі словамі перадаюцца страх і гора зайчыкаў?
4. Знайдзіце ў тэксце выразы: «крыльцамі звоняць», «трасіся кожную часінку», «выбавяць з бяды», «у ваду кінуцца». Як вы разумееце іх?
5. Хто прызнаў сілу зайчыкаў? Як гэта адбылося?
6. Знайдзіце ў тэксце сказы, якімі можна падпісаць малюнак, і зачытайце іх.
7. Падрыхтуйце падрабязны пераказ казкі.

*8. Складзіце сваю казку. Перакажыце яе ў класе, дома.

## ЛІСІЦА І ГУСАК

Неяк Лісіца злавіла Гусака і кажа: «Гусак, Гусак, я цябе з’ем!» Засмуціўся Гусак, а рабіць няма чаго. Вось ён і гаворыць: «Хай будзе так, Лісічка. Толькі дазволь мне перад смерцю патанцаваць».

Ліса адказвае: «Танцуй сабе, а з’есці я цябе яшчэ паспею».

Гусак пачаў махаць крыламі ды з нагі на нагу пераступаць.

Глядзіць Лісіца на Гусака і смяецца: «Вось дык Гусак! Вось дык танцор!»

А Гусак крыламі махаў, махаў, з нагі на нагу пераступаў, а потым падняўся ў паветра і паляцеў.

Так і засталася Лісіца з разяўленым ротам.



1. Якой у гэтай казцы паўстала перад намі Лісіца? А якой яна можа быць у іншых казках? Прывядзіце прыклады.
2. Як Гусак перахітрыў Лісіцу? Выберыце словы для яго характарыстыкі: *хітры, разумны, кемлівы, знаходлівы.*

3. Якім тонам і ў якім тэмпе варта чытаць гэтую казку? Чаму? Свае выказванні пацвердзіце словамі з тэксту.
4. Зрабіце малюнкі да казкі.
5. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу казкі.

## КАЗКІ

*Васіль Вітка*

Усе дзеці любяць казкі. А ў гэтай школе казкі складаюць самі вучні. Усе, пачынаючы з другога класа.

Мы прыйшлі на ўрок казкі.

— Што трэба ўмець, каб скласці казку? — спыталася настаўніца.

— Чытаць, — адказала адна дзяўчынка.

— Трэба ўмець пісаць, — дадала другая.

— А самае галоўнае, — перапытала настаўніца, — што трэба ўмець?

— Думаць, — адказалі вучні ўсім класам. Гэта праўда: казка вучыць думаць. У школе, дзе працаваў настаўнік Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі, напісаны тысячы казак.

Як пачынаецца казка? Васіль Аляксандравіч расказваў: «Вось мы выйшлі ў сад. Бачым вялікія дрэвы акацыі, у лісцях гудуць майскія жукі. Я кажу дзецям: “Чуеце, ляціць жук, а вось вострая калючка. Наляцеў на яе, бядак, укалоўся і, ранены, упаў на зямлю. Убачылі іншыя жукі, кінуліся ратаваць. Ну а далей што?”»

Тут і пачынаецца фантазія дзяцей. Адны кажуць: «Прыехала “хуткая дапамога”, перавязалі рану, павезлі ў бальніцу. Там агледзелі, зрабілі яшчэ адну перавязку». «І пераліванне крыві, — дадаюць другія. — У бальніцу прыляцелі маленькія жучкі. Яго сыны і дочкі...»

Гэта калектыўная казка, складзеная ўсім класам разам. Але кожны вучань можа скласці сваю казку сам. Няхай не адразу, не за адзін дзень, але па слову, па сказу складае, перапісвае ў сшытак і прыносіць у школу.

«Што гэта за такая незвычайная школа, што гэта за такія вучні-казачнікі?» —

спытаецеся вы. Школа самая звычайная, як і ўсе. І вучні такія ж, як усе, бо змалку ўсе любяць і ўмеюць складаць казкі.



1. Чаму вучаць казкі? Што трэба ўмець, каб самому скласці казку?
2. Як звычайна пачынаецца казка? Якімі словамі заканчваецца? Пацвердзіце прыкладамі.
3. Дзе жывуць казкі?
4. Як называюцца людзі, якія складаюць і пераказваюць казкі?

*5. Выйдзіце ў школьны сад (агарод), парк, двор, лес, поле ўсім класам, падзяліцеся на групы і паспрабуйце самі скласці казкі.
Пачніце так: «Сустрэліся восеньскай раніцай на лясной палянцы Вавёрка і Заяц. Заспрачаліся. Вавёрка хваліць восень, а Заяц ганіць...»

## БАЙКІ

• Байка — кароткі тэкст з павучальнай канцоўкай. Байкі падобныя да казак. Байка адрозніваецца ад казкі тым, што яна мае мараль.

## ШТО ВЕДАЕШ, АБ ТЫМ НЕ ПЫТАЙСЯ

Мужык вёз сена, а другі ішоў яму насустрач.

— Здароў!

— Здароў!

— Што вязеш?

— Дровы.

— Якія ж дровы, калі ў цябе сена?

— А калі бачыш, што сена, дык навошта пытаешся?

Тады толькі мужык, пачухаўшы патыліцу, падумаў сам сабе: «А і сапраўды, навошта я пытаўся?»



1. Ці спадабалася вам байка?
2. Якімі вы ўяўляеце герояў байкі?
3. Якая мараль байкі? Які вывад вы можаце зрабіць для сябе?
4. Прачытайце байку самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Размяркуйце байку па ролях і выразна прачытайце.

## ДАКУЧЛІВАЯ БАЙКА



— Мы з табой ішлі?
— Ішлі!
— Кажух знайшлі?
— Знайшлі!
— Я табе яго даў?
— Даў!
— Куды ты яго паклаў?
— Каго?
— Кажух!
— Які?
— Дык мы з табой ішлі?
— Ішлі!
— Кажух знайшлі?
— Знайшлі!
— Я яго табе даў?
— Даў!
— Куды ты яго паклаў?
— Каго?
— Кажух!
— Які?
— Дык мы з табой ішлі?
(І далей спачатку.)



1. Чаму такая байка называецца дакучлівай?
2. Выберыце адпаведную словам тэксту інтанацыю і прачытайце байку. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку ў канцы сказаў (?!).
3. Размяркуйце тэкст па ролях і праінсцэніруйце яго.



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Душа народа ў песнях, казках тых жыве...»**.

1. Якім падзеям адпавядаюць пералічаныя песні?

| | |
|---|---|
| «Дажынкавая» | Каляды |
| «Купальская» | Купалле |
| «Вясновая» | прыход вясны |
| «Калядная» | час жніва |

2. У якіх песнях усхвалялі гаспадароў і прасілі не шкадаваць гасцінцаў? Выберыце правільны адказ:
   а) масленічных;
   б) калядных;
   в) вясновых.
3. З якіх твораў узяты ўрыўкі:
   а) «...Пайшоў каток у лясок,
   Знайшоў каток паясок...»;

б) «Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта дажала...»;

в) «Прыехала Каляда на сваім конiку...»;

г) «Жавароначкі, прыляціце...»?

4. Успомніце і назавіце казкі, з якіх узяты гэтыя малюнкі.





5. Хто са звяроў у беларускіх народных казках баязлівы, а хто грозны? (Ліса, мядзведзь, воўк, заяц, кот, сабака.)

6. Назавіце казкі, якія пачынаюцца наступнымі словамі:

а) «Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка...»;

б) «Селі два зайчыкі ў лясочку пад бярэзінкаю...».

7. Чаму казкі называюцца народнымі. Складзіце (вусна) невялікую казку на

тэму «Як пасябравалі Вожык і Заяц». Раскажыце.

*8. Намалюйце вокладкі да казак «Лісіца і Гусак», «Курачка-раба» (на выбар).

9. Устанавіце паслядоўнасць падзей у казцы «Зайчыкі» па схеме:












Разгледзьце малюнкі. Раскажыце, што адбывалася далей (трэці, чацвёрты і пяты квадрацікі).

# І ВОСЕНЬ НА ПРЫЗБУ СТУПІЛА...

*Раіса Баравікова*



Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:

1. Куды прыйшлі дзеці?
2. Хто іх сустрэў каля школы?
3. Што яны прынеслі ў школу?

4. Каго слухае настаўніца? Якія ветлівыя словы гаворыць хлопчык?
5. Раскажыце, як вы правялі першы дзень у школе.

   **Словы для выкарыстання:** *школа, настаўніца, бацькі, пайшлі, новыя ранцы, букеты кветак, сябры, весела, радасна, прыгожы будынак, цёплы дзянёк, выдаўся, раніцой, пакрочылі.*

## ЗАГАДКА

*Уладзімір Мазго*

Дом-палац стаіць высокі.
Нашых ведаў там вытокі.
Радасць свеціцца наўкола...
Ну, вядома, гэта — ... .

## ВОСЕНЬСКІЯ ВЕСТКІ

*Васіль Вітка*

Лета яшчэ было ў пары́ самай сваёй спеласці. Аднак, до́світкам прачнуўшыся і зірнуўшы ў чыстае неба, я адчуў: нешта такое адбылося, што раптам змяніла і на-

строй паднябеснай прасторы, і ціхі по́шум яшчэ густых і зялёных дрэў. І ўсё ніяк не мог уця́міць — доўга і пакутліва: што ж адбылося, што змянілася?

І толькі калі на маладой рабінцы, ужо зачырванелай гронкамі ягад, убачыў увí шную гарэ́злівую сінічку, пачуў яе звонкі сярэбраны залівісты галасок, зразумеў, чаго не хапала гэтай раніцы. Урачыстых, радасных воклічаў маладых ластавак, што навучыліся ўжо лятаць і заўсёды першымі сустракалі досвітак. Значыць, маладыя ўжо дасканала навучыліся лятаць. Старыя разам з імі ўпэўнена выправіліся ў далёкую дарогу.

Ластаўкі зніклі. І глыбока ў душы варухнулася трывога. Чаму ж так рана, яшчэ ў зусім цёплую пару?

Мабыць, яны ўсё ж болей прадбачлівыя, чым людзі. І ўжо загадзя, за многія сотні і тысячы вёрст адчулі, што ідзе восень.



До́світак — час перад усходам сонца.
По́шум — ціхі шум.
Уця́міць — зразумець.
Уві́шны — жвавы, спрытны ў рухах, у дзеяннях.
Гарэ́злівы — вясёлы, непаседлівы.
Вярста́ — мера даўжыні, крыху большая за кіламетр.



1. Прачытайце ў слоўніку словы і іх тлумачэнні. Знайдзіце гэтыя словы ў тэксце разам з тымі, якія дапамагаюць лепш зразумець іх значэнне.
2. Які настрой выклікаў гэты тэкст:
   а) вясёлы;
   б) сумны;
   в) радасны?
3. Што адбылося, што змянілася ў прыродзе з надыходам восені? Пацвердзіце словамі з тэксту.
4. Прачытайце два апошнія абзацы тэксту і адкажыце, чаму ў душы пісьменніка «варухнулася трывога».
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту.

## АДШУМЕЛА ЛЕТА

*Сяргей Грахоўскі*

Адшумела лета
Роснымі лугамі.
Апусцела поле,
Нівы адцвілі.
Праплываюць хмары
Нізка над стагамі,
І ляцяць у вырай
З крыкам жураўлі.
На рабіне скачуць
Шустрыя сініцы.
Пад дажджом намоклі
Клёны і дубы,
Наліліся сокам
Спелыя брусніцы,



І каля дарогі
Выраслі грыбы.
Кружыць вецер лісце,
Завывае ў полі.
Змоўклі перапёлкі,
Жаваранак змоўк —
Адшумела лета.
Ды звініць у школе
І за парту кліча
Раніцай званок.



1. Якія малюнкі прыроды вы ўявілі, чытаючы верш? Раскажыце.
2. З якім пачуццём паэт піша пра тое, як «адшумела лета»? У якіх радках верша гэтае пачуццё перадаецца асабліва яскрава? Прачытайце.
3. Знайдзіце ў вершы радкі, якія перадаюць сумны і разам з тым радасны настрой надыходу восені. Прачытайце верш выразна.
4. Якія словы і выразы ўжывае паэт, каб паказаць надыход восені? Зачытайце.

*5. Супастаўце творы Сяргея Грахоўскага «Адшумела лета» і Васіля Віткі «Восеньскія весткі», знайдзіце ў іх агульнае і рознае.

## У ВЕРАСНІ

*Артур Вольскі*

**У ве́расні,**
**у верасні**
хапае ўсім турбот.
Дзятва да школы
**ў верасні**
спяшаецца штогод.
**У верасні,**
**у верасні**
зрабіўся дзень малы.
Развітваюцца
**ў верасні**
з буслянкамі буслы.
Рассекшы хмару ўзмахамі,
клін жураўліны знік.
А ўсё чуваць над дахамі
птушыны сумны крык.
**У верасні,**
**у верасні**
турбо́т — паўнюткі рот.
І я раблюся
**ў верасні**
старэй на цэлы год.



Турбо́та — заклапочанасць чым-небудзь.



1. Пра якія турботы гаворыцца ў вершы? Зачытайце.
2. Як вы разумееце радкі верша: «У верасні, у верасні турбот – паўнюткі рот»?
3. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пры чытанні ўслых звяртайце ўвагу на выдзеленыя словы.
4. Вывучыце верш альбо яго частку на памяць.

## Жарт

Н а с т а ў н і к. Чаму салавей, калі пяе свае песні, заплюшчвае вочы?

В у ч а н ь. Бо ён іх ведае на памяць.

## У АРЭХАХ

*Рыгор Ігнаценка*

Пайшлі мы аднойчы з Кастусём у арэхі. Па дарозе дамовіліся ніводнага арэха не есці, каб потым палічыць, хто болей нарваў.

Ціха ў канцы лета ў лесе. Хіба толькі дзе мыш у апалым лісці піскне ці вецер у верхавінах дрэў прашуміць. Пракоціцца марской хваляй і тут жа сціхне.

Праз нейкі час чую: справа арэх шчоўкнуў. Значыць, усё ж Кастусь не ўтрымаўся, каб не паспытаць. Потым другі шчаўчок, трэці. Я ж трымаюся, не спрабую. Няхай, думаю, тады паглядзім, у каго болей будзе.

А Кастусь між тым усё грызе арэхі ды грызе. Я памацаў: амаль ужо дзве кішэні



поўныя. Ну што ж, думаю, зараз можна і мне паспытаць. Сарву шышачку — што ў кішэню, а што — у рот.

Доўга я так арэхі рваў. А Кастусь увесь гэты час грыз іх.

Нарэшце вырашыў я паглядзець. Можа, у яго там арэхаў процьма, што ён есць іх не шкадуючы?

Падыходжу асцярожна да куста, дзе арэхамі шчоўкаюць. Гляджу — аж гэта ніякі не Кастусь, а вавёрка. Паважна сядзіць на шырокім пні і арэх грызе. А што за прыгажуня! Футра на ёй рыжае, грудка снежна-белая, мяккі пушысты хвост, вялікія цёмныя вочкі. Так і хочацца падысці да звярка ды па мяккай поўсці пагладзіць.

Пераможцам, вядома, Кастусь стаў. Як і дамовіліся мы, ён ніводнага арэха не з’еў.



1. Пра што цікавае даведаліся вы з гэтага апавядання?
2. Аб чым дамовіліся хлопчыкі? Чаму Кастусь стаў пераможцам?

3. Знайдзіце апісанне вавёркі і прачытайце яго. Апішыце вавёрку, карыстаючыся малюнкам і ўжываючы словы з тэксту.
4. Падзяліце тэкст на часткі згодна з планам і зачытайце іх.

План

1. Хлопчыкі пайшлі ў арэхі.
2. Шчоўкнуў арэх.
3. Сустрэча з вавёркай.
4. Кастусь не падмануў.

*5. Перакажыце адну частку тэксту (на выбар).

## ПРЫЛЯЦЕЛА ВОСЕНЬ

*Васіль Жуковіч*

Залатыя стужкі
На бярозцы мілай.
Хутка, хутка птушкі
Паляцяць у вырай.

І вятры крутыя
Злосна загамоняць,
Воблакі густыя
Неба запалоняць.



А пакуль што — про́сінь
Між аблокаў белых.
Маладая восень
Толькі прыляцела.



Про́сінь — сіні прасвет.



1. Якой вы ўявілі восень, прачытаўшы гэты верш?
2. Якія словы і выразы дапамагаюць вам уявіць карціну восені? Зачытайце.
3. Знайдзіце ў вершы радкі, якія трэба чытаць з рознай інтанацыяй. Прачытайце, перадаючы свае пачуцці.
4. Успомніце іншыя творы, у якіх прырода надзелена чалавечымі рысамі.
5. Вывучыце верш на памяць.

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

*Якуб Колас*

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі ў вырай
Мкну́цца над лясочкам.



Мкну́цца — імкнуцца, хутка рухацца, накіроўвацца куды-небудзь.





1. Радасць ці смутак адчулі вы, прачытаўшы гэты верш? А можа, і тое і другое?
2. Якія малюнкі восені паэт адлюстраваў у вершы?
3. Ці прыходзілася вам назіраць, як восенню ляцяць у вырай жураўлі? Які ў вас тады быў настрой?
4. Якімі словамі аўтар перадаў свае пачуцці да восені? Прачытайце іх.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ПАМОЧНІЦА

*Янка Галубовіч*

Цёплы, ясны вераснёўскі дзянёк.

Па ўзараным полі шпацыруюць крыклівыя чародкі чорных гракоў.

Высока ў сінім небе, нібы падвешаны на нітцы, лунае каршун.

На вяргінях блішчаць іскрыстыя пацеркі-расінкі. У паветры плывуць тонкія павуцінкі.

Таўкуць мак камары. Па галінках вішні паўзуць божыя кароўкі.

Зацвіў верас.

Злёгку пасерабрыліся пры гасцінцы бярозкі.

Падняўся з лаўкі з-пад вішанькі, азірнуўся наўкола і ўбачыў у агародчыку на градцы капусты птушку. Цёмна-шэрую, знізу белаватую, з цёмнымі папярочнымі палосамі.

«Зязюлька! А што яна робіць у маім агародчыку? Ага, вусеняў на качанах капусты шукае. Вунь аднаго ў дзюбе трымае. Калматага такога, страшнага».

Глуха падалі ў траву грушы, у вяргінях басавіта гулі чмялі. Заклекатаў на ліпе бусел, ды так моцна, што ажно рэха па вёсцы пакацілася.



Але зязюлька ні на што не зважала. Яна працягвала знішчаць вусеняў. Паляцела зязюлька з агародчыка толькі пасля абеду.

Падышоў да градкі і здзівіўся. Два дні змагаўся з вусенямі, рады не мог даць, а тут ні аднаго на качанах не відаць.



1. Ад чыйго імя вядзецца гаворка ў тэксце? Зачытайце.
2. Як вы разумееце выразы: «таўкуць мак камары», «высока ў сінім небе, нібы падвешаны на нітцы, лунае каршун», «рады не мог даць»?
3. Што рабіла зязюлька ў агародчыку?
4. Чаму аўтар назваў тэкст «Памочніца»? Пацвердзіце свае выказванні словамі з твора.
5. Падрыхтуйце пераказ, блізкі да тэксту.

## ХТО ВІНАВАТЫ?

*Алесь Жук*

Хлопчык ніяк не мог зразумець, чаго ад яго хочуць.

Што ён, урэшце, такое зрабіў? Вазу крыштальную разбіў? Ці новую мэблю цвіком падрапаў?.. Падумаеш, у абед скарыначкай хлеба запусціў у Рубіка — сабачку, якога падарыў яму тата. Ды і зрабіў гэта не са злосці. А так, каб не сумна было абедаць. Рубік забег з пакоя ў кухню, а ён — раз! — і кінуў. Вось і ўсё. І болей нічагусенькі.

Толькі дзядуля з бабуляй чамусьці адразу перасталі есці, а потым дзядуля ціха сказаў:

— Прасі прабачэння...

Хлопчык незадаволена надзьмуўся, але вылез з-за стала, падышоў да дзядулі з бабуляй і, гледзячы ў падлогу, прамармытаў:

— Даруйце... Я болей не буду...

— Не-не, — паспяшаўся спыніць хлопчыка дзядуля. — Не ў нас, а ў яго прасі прабачэння...

Хлопчык падышоў да Рубіка, які зашыўся ў кут каля дзвярэй і вінаватымі вачыма сачыў за ўсім, што адбывалася на кухні.

— Даруй мне, Рубік... Я болей не буду...

Але дзядуля зноў яго перапыніў:

— Не-не... Ты і зараз, мусіць, не зразумеў. У хлеба прасі прабачэння... У хлеба...

І вось гэтага хлопчык ніяк не мог зразумець. Можа, ён недачуў? Ці, можа, дзядуля агаварыўся?

А дзядуля быццам здагадаўся пра яго думкі, яшчэ раз пацвердзіў свае словы:

— Так-так, у хлеба... Падымі і прасі прабачэння...

Як можна прасіць прабачэння ў хлеба?! Ён жа — нежывы! Не дыхае і не размаўляе. Не смяецца і не плача... Гэта ў людзей можна прасіць прабачэння. Ну, няхай нават у жывёл, у птушак — яны таксама жывыя. А ў хлеба?.. Ён кожны дзень бачыць, як кідаюць хлеб у скрынкі для смецця, проста на зямлю, у гразь... І ніхто не просіць прабачэння. А калі так робяць, значыць, хлеб — дробязь. Усё адно як той камень ці пясок... Адным словам — мёртвая рэч! А тут — прасі прабачэння...

Хлопчык падняў скарыначку і заплакаў: ён не ведаў, за што павінен прасіць прабачэння ў хлеба.

А хто вінаваты?..



1. Чаму дзядуля з бабуляй патрабавалі, каб унук прасіў прабачэння ў хлеба?
2. Чаму хлопчык ніяк не мог зразумець, чаго ад яго хочуць дарослыя? Пацвердзіце словамі з тэксту.
3. Чаму аўтар у канцы некаторых сказаў ужывае шматкроп'е?

*4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту. Размяркуйце апавяданне па ролях і праінсцэніруйце асобныя часткі тэксту (на выбар).

5. Паразважайце, чаму апавяданне называецца «Хто вінаваты?».

## ХЛЕБНАЯ СКАРЫНКА

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Пахне
хлебная скарынка
цёплым ветрыкам,
хваінкай,

летнім дожджыкам
грыбным,
лугам,
полем іржаным,
і асенняй пазалотай,
ды натхнёнаю
работай.





1. Чым пахне хлебная скарынка? Зачытайце.
*2. Ці ведаеце вы, як хлеб на стол прыходзіць? Раскажыце.
3. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.
4. Прачытайце верш хорам.
5. Вывучыце верш на памяць.

## Прыказкі

Без хлеба і мёдам сыты не будзеш.

Калі хочаш хлеба мець, то трэба зямельку глядзець.



Як вы разумееце гэтыя прыказкі?

## ПРЫТВОРКА

*Іван Муравейка*



Захварэў раптоўна,
Захварэў сур'ёзна.
На ўсю хату стогне,
Енчыць, плача слёзна:
— У мяне — балячка,
У мяне — гарачка,
У жываце — буркота,
Есці неахвота...
На дварэ ўжо раніца
Сонцам разгараецца.
Мама з бабкай раяцца,
Як з хваробай справіцца:
— Трэба даць уколы
Беднаму Міколу.

А Мікола:
— Што вы!
Я даўно здаровы.
З ложка ўсхапіўся,
За партфель схапіўся:
— Не жадаю ўколаў,
Лепш пайду я ў школу!..



1. Пра каго расказвае гэты верш?
2. Якія словы дапамагаюць зразумець прытворства Міколы? Пры чытанні верша вымаўляйце іх больш гучна.
3. Што вы ўяўляеце, калі чытаеце апошні слупок верша? Паспрабуйце гэта намаляваць.
4. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Вывучыце верш на памяць.

## НАРЭШЦЕ ЗРАЗУМЕЎ

*Павел Кавалёў*

Маці паслала Цімку купіць батон. Каля самага магазіна ён дагнаў незнаёмага дзядулю. Не паспеў стары пераступіць парог, як Цімка, штурхануўшы яго, прашмыгнуў наперад. Стары лёгенька, але з яўны́м намёкам стукнуў Цімку кійком па спіне. Хлопчык азірнуўся: за што? А дзядуля, не хаваючы хітрынкі ў вачах, моўчкі пайшоў да прылаўка.

Вярнуўшыся дамоў, Цімка расказаў маці пра здарэнне ў магазіне.

— Цікава, — усміхнулася маці.

— Што цікава? — перапытаў Цімка.

— Ды тое, што з табою адбылося.

— Чаго ж той дзед мяне зачапіў?

— А ты не зразумеў?

— Не...

Маці хацела, каб Цімка сам пра ўсё здагадаўся. Але той маўчаў.

— Крыўдна мне за цябе, сынок.

— Чаму?

— Што ты такі някемлівы...

Цімка ледзь не плакаў: ён нічога не разумеў. Тады маці сказала:

— Ты, сынок, пакрыўдзіў старога чалавека. Павінен быў прапусціць дзядулю першым. Трэба дарослых, асабліва старэйшых, паважаць.

— А-а, — нарэшце зразумеў Цімка.



1. Што вас здзівіла ў гэтым апавяданні?
2. Чаму дзядуля «лёгенька, але з яўным намёкам стукнуў Цімку кійком па спіне»?
3. Што вы можаце сказаць пра паводзіны хлопчыка ў магазіне?

4. Што нарэшце зразумеў Цімка? Пацвердзіце словамі з тэксту.
5. Размяркуйце тэкст па ролях і прачытайце.
*6. Прачытайце апавяданне самастойна і падрыхтуйцеся пераказаць яго па плане.

План

1. Здарэнне ў магазіне.
2. Размова маці з сынам.
3. Здагадаўся.





Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:
1. Што робіць хлопчык?
2. Што ляжыць у яго на стале?
3. Што будзе рабіць хлопчык потым? Раскажыце.

## ЮРАЧКА

*Янка Купала*

Ой ты, Юрачка,
Што не вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся.

А як вырасцеш
Ты няўмекаю,
Усе высмеюць
Недарэкаю.



Прачытайце верш. Звярніце ўвагу на знакі прыпынку ў канцы сказаў (?.). Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## СВЕТЛЫМ РАННЕМ

*Янка Брыль*

Некалькі дзён быў дождж, а сёння свеціць сонца. І гэта вельмі добра!

Дзяўчынка Люся з татам ходзяць па лесе. Ёй усё прыемна: і што сонейка свеціць, і што навокал лес, і што ў руках яе — вялікі баравік. Белую таўстую ножку яго Люся

трымае абе́руч. А над ручкамі Люсі — шапка баравіка, падобная на круглую, прыпечаную зверху булку. Люся ніяк не можа дагнаць свайго тату. Ён збірае грыбы і ўсё лезе туды, дзе густа стаяць калючыя елачкі, куды Люсі не хочацца лезці.

— Тата! — крычыць яна час ад часу. — Ідзі па дарожцы!

Дарожкі тут няма, а скрозь толькі кветкі верасу. Ды Люся лічыць дарожкай тое месца, дзе елачкі не загароджваюць ёй шлях.

Але вось тата гукае:

— Люся! Бяжы сюды!

Люся не лезе ў елачкі — яна аббягае іх.



— Ну, Люся, знайдзі грыбок! — гаворыць тата.

— А гэты? — пытаецца Люся, выставіўшы перад сабой свой вялікі баравік, якім заняты ў яе абедзве рукі.

— Гэты кладзі мне ў кошык.

У татавым кошыку многа грыбоў. Усе яны — баравікі з карычневымі шапкамі. Люся кладзе на іх свой баравік. З пустымі, свабоднымі рукамі ёй робіцца яшчэ весялей.

Яна выцірае рукі адна аб адну і гаворыць:

— Я знайду яго, тата. Праўда?

Баравічок схаваўся ў верасе. Вакол яго — тры елачкі, калючыя лапы якіх звісаюць да самай зямлі. Баравічок зусім малы. Ён вырас, мусіць, толькі сёння ноччу. Да карычневай шапкі яго прыліп сухі вялікі ліст. Грыбок нібы накрыўся ім, каб лепш схавацца.

— Ну, лезь, дачка, сюды, пад елачкі! Ён там!

Люся становіцца на калені, апускаецца рукамі на траву і лезе пад елачкі на чаты-

рох нагах, як кошка. Вочы ў Люсі, вядома, заплюшчаны. Яна расплюшчвае іх, калі голле елачак канчаецца.

— Грыбок! — крычыць яна і аберуч хапаецца за белую таўстую ножку баравіка. — Я сама знайшла яго! Праўда?

Грыбок вельмі прыгожы. Яго малая карычневая шапачка падобна не на круглую булку, а на каштан. Такія каштаны Люся знаходзіла летась у садзе сваёй бабулі.

— Ідзем, тата, яшчэ знойдзем. Праўда?

Тата бярэ свой кошык з баравікамі, і яны ідуць далей. Тата зноў лезе ў зараснік, а Люся стаіць з баравіком у руках і чакае.



Абе́руч — дзвюма рукамі.



1. Пра што апавядаецца ў творы? Якія месцы ў тэксце вам найбольш спадабаліся? Зачытайце.
2. Як апісаў аўтар збор грыбоў? З якім пачуццём ён піша пра гэта? Прачытайце.
3. Як Люся знайшла грыбок?
4. Зачытайце ў тэксце апісанне баравіка.

*5. Складзіце вуснае апавяданне «Збор грыбоў».

## ВОСЕНЬ

*Сяргей Новік-Пяюн*



Восень, восень залатая
Сее радасць на зямлі,
Хмарка ў сінім небе тае,
Мкнуць у вырай жураўлі.

Я іду лясною сцежкай,
Як па мяккім дыване.
Восень з ветлівай усмешкай
На спатканне выйшла мне.

Ярка, хораша прыбрала
Ўсюды дрэвы і кусты
І зямлю памалявала
Ў колер жоўта-залаты.



1. З якім пачуццём паэт піша пра восень?
2. Якія словы дапамагаюць вам уявіць восень як жывую істоту? Зачытайце.
3. Пра якую восень – ранню або познюю – расказваецца ў гэтым вершы? Якія радкі гавораць, што восень прыйшла?
4. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.

*5. Чым вам падабаецца восень? Раскажыце, якая яна бывае ў вашай мясцовасці.

## ЧАТЫРЫ ПАЖАДАННІ

*Васіль Вітка*

Добра, калі ты змалку
Можаш вітаць людзей.
Раніцай: **«Добрага ранку!»**
І апаўдня: **«Добры дзень!»**
Увечары пры сустрэчы
Знаёмым сказаць: **«Добры вечар!»**
А соннаму сонейку нанач
І ўсім добрым людзям: **«Дабранач!»**



1. Пра якія прывітальныя словы аўтар гаворыць у вершы?

2. Якія яшчэ прывітальныя словы вы ведаеце? Калі іх гавораць?
3. З якім пачуццём трэба гаварыць і чытаць прывітальныя словы?
4. Прачытайце верш спакойна, выдзяляючы галасам словы-прывітанні.
5. Вывучыце верш на памяць.

## КАТОК І МЫШКА

*Леанід Улашчанка*

### I

Злавіў каток мышку і збіраўся паснедаць. Мышка пачала горка плакаць:

— Якая ж я няшчасная! І чаму ж мне так не шанцуе? Лепш бы мяне з'ела ліса



або калючы вожык, усё б лягчэй на душы было.

— Чаго гэта ты так галосіш? Чым кепска, што я з'ем цябе? — запытаў каток.

— Яшчэ пытаецца! — адказала мышка. — Зірні на сябе. Вусы доўгія, лапы брудныя, зубы нячышчаныя. Каму гэта прыемна гінуць ад бруднага, неахайнага ката? — І яна зноў горка заплакала, прамаўляючы: — А футрачка ж маё чысценькае! А я ж кожную ранічку цябе мыла!

— Ну, не галасі так жаласліва, — супакойвае яе каток. — Вось зараз памыюся і буду не горшы за тую лісу ці вожыка.

## II

Сеў каток на заднія лапкі і пачаў старанна мыцца.

Язычком лапку паліжа, па вусіках правядзе і пытаецца ў мышкі:

— Ну, як? Чысты я ці не?

— Не, не чысты, — адказвае мышка. — Ты яшчэ вочкі не працёр і за вушкамі не памыў, адна лапка ў цябе бруднейшая за другую.

— Ну, — кажа каток, — зараз так памыюся, што буду самы чысты ў свеце.



III

І давай лапкі аблізваць ды па пысцы сваёй вадзіць, і па вочках, і па носіку, і нават за вушкамі памыць стараецца.

А мышцы толькі гэта і трэба было. Шмыгнула яна ў норку і цікуе адтуль, як каток завіхаецца.

Скончыў каток мыцца і пытаецца ў мышкі:

— Ну, як? Цяпер не будзеш шкадаваць, што я цябе з’ем?

А мышка яму з норкі адказвае:

— Не, не буду. Таму што ты не зможаш з’есці мяне.

Зірнуў каток — а мышкі перад ім няма.

IV

Пачаў ён яе дакараць:

— А як жа табе не сорамна, ашуканка ты гэткая! Я табе паверыў, пашкадаваў, а ты! Каб я ведаў, што ты гэткая падманшчыца, з'еў бы цябе не мыўшыся, няхай бы табе горш было.

Мышка яму і кажа:

— А гэта табе навука: перш чым ісці на паляванне ці па справах якіх, не забудзь памыцца, тады цябе ніхто не ашукае.

І мышка схавалася ў сваю норку. Вось з таго часу каток і мыецца некалькі разоў на дзень. Каму ж гэта прыемна без снядання застацца?



1. Пра што гэтая казка?
2. Якімі паказаны ў казцы каток і мышка?
3. Як дакараў мышку каток? Што мышка адказала?
4. Прачытайце апошнія радкі тэксту. Чаму каток з таго часу мыецца некалькі разоў на дзень?
5. Знайдзіце ў тэксце словы, якімі вы падпісалі б ілюстрацыі.
6. Прачытайце казку яшчэ раз. Перакажыце тэкст.

## Загадка

Лёг вусаты, а ўстаў гарбаты.



Прачытайце і адгадайце загадку. Зачытайце словы, якія дапамагаюць яе адгадаць.

## КОЛЬКІ КОШАК У КАШЫ́?

*Рыгор Барадулін*

Берагам ішоў Цімошак,
Нёс цяжкі лазовы кошык.
Варушыўся дужа кошык —
Там сядзела многа кошак.
Адпачыць схацеў Цімошак,
Задрамаў —
Раскрыўся кошык.



Кошкі хітрыя паволі
Разбрыліся ўсе па волі.
Кошка першая пайшла
Частавацца да бусла...
Пачастунак надта сла́бы —
Не да смаку кошцы жабы.
А другая кошка — Мурка —
З вераб'ём гуляла ў жмуркі.
Дзве схаваліся за горкай,
Дзве сачылі за вавёркай,
Дзве збаяліся ваўкоў,
Хвост на плечы —
І дамоў!
Спаў Цімошак дацямна,
Засталася з ім адна.
Ты падумай і скажы:
Колькі кошак у кашы?



1. Колькі кошак у кашы?
2. Знайдзіце словы, якія адрозніваюцца адной літарай. Зачытайце.
3. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.
4. Прачытайце твор хорам.

## ЖУРАВІНЫ

*Уладзімір Ягоўдзік*

Што за казачнае слова — журавіны! Колькі музыкі, пяшчоты ў кожным гуку! Так і хочацца ўголас паўтарыць: журавіны, журавінка...

Хутка прамільгнула лета. Восень апранае дрэвы ў залатыя стро́і. І сонечным дзяньком, і ў дзень дажджлівы клічуць грыбнікоў любімыя мясціны. Там чакаюць іх баравікі, апенькі ці зялёнкі.

Ну а мы хадзем па ягады, па журавіны.

Дарога ў нас няблізкая — на балотныя імша́рыны. Туды на колах не заедзеш і пешкі ўсюды не пройдзеш, бо пад нагамі аж дрыжыць, гайдаецца зямля. А хвойкі



навокал з растапырамі-галінамі. Пад імі купіны сядзяць, падобныя на мяккія падушкі. На кожнай ягад — як па́церак насыпана.

Журавіны восенню з кіслінкай, свежых многа не з'ясі. Затое лекі з іх — няма другіх такіх на свеце. Пра гэта людзі ведалі і ў даўніну. Шмат якія стравы проста казачнымі робяцца, калі гаспадыня не забылася пра пацеркі балотныя.



Стро́і — уборы, убранне.
Імша́рыны — мохавыя балоты.
Па́церкі — круглыя або іншай формы невялічкія прадметы з бурштыну, шкла з дзіркай пасярэдзіне для працягвання ніткі.



1. З якім пачуццём аўтар піша пра журавіны? Прачытайце.
2. Дзе журавіны растуць? Калі іх збіраюць?
3. Знайдзіце апісанне балотнай імшарыны. Прачытайце.
4. Якія лекі і стравы рыхтуюць з журавін?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.









1. Разгледзьце малюнкі і складзіце невялікае апавяданне «Што робіць Ліда?».
   **Словы для выкарыстання:** *мыецца, выціраецца, робіць зарадку, адзяваецца, снедае.*
2. Складзіце апавяданне пра сябе «Што я раблю ранкам».

## СТАРЫ ДЗЕД І ЎНУЧАК

*Леў Талстой*

Стаў дзед вельмі стары. Ногі ў яго не хадзілі, вочы не бачылі, вушы не чулі, зу-

боў не было. Калі ён еў, з рота ў яго цякло назад. Сын з нявесткаю перасталі яго саджаць за стол, а абедаць яму давалі за печчу. Далі яму раз абедаць у талерцы. Ён хацеў яе падсунуць, ды яна ўпала і разбілася.

Нявестка пачала ўшчува́ць старога за тое, што ён ім усё ў доме псуе і посуд б'е, і сказала, што цяпер яна яму будзе даваць есці ў ра́жцы. Дзед толькі ўздыхнуў і нічога не сказаў.

Сядзяць раз муж з жонкаю дома і глядзяць: сынок іх з дошчачкамі гуляе — нешта складае. Бацька і папытаўся: «Што гэта ты робіш, Міша?» А Міша і кажа: «Гэта я, татулька, ражку раблю. Калі вы з мамкаю старыя станеце, каб вас з гэтай ражкі карміць».

Муж з жонкаю паглядзелі адно на аднаго і заплакалі. Ім стала брыдка за тое, што яны гэтак крыўдзілі дзядулю. Пачалі з таго часу саджаць яго за стол і даглядаць.



Ушчува́ць — папракаць.
Ра́жка — драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай, прызначаная для розных гаспадарчых патрэб.





1. Што вас здзівіла ў гэтым тэксце? Чаму?
2. Як адносіліся да дзядулі нявестка і сын? Прачытайце. Чаму дзед ніколі ім нічога не гаварыў?
3. Што вырашыў зрабіць унучак?
4. Зачытайце словы, якія раскрываюць галоўную думку твора.
5. Падрыхтуйце пераказ, блізкі да тэксту.

## НОВЫ СШЫТАК

*Лідзія Арабей*

### I

Косцік вельмі любіў пачынаць новы сшытак. І на першых старонках пісаў заўсёды вельмі акуратна, старанна. Літары выходзілі роўныя і прыгожыя.



Але чым далей пісалася ў сшытку, тым бруднейшыя выходзілі старонкі, крывейшыя літары. А як перавальвала за палавіну, тут ужо невядома што рабілася. Літары пачыналі нібыта скакаць — то вылазіць зверху за лінейку, то сяга́ць пад яе, рабіліся нібы гарбатыя.

Косціку і самому брыдка было глядзець на сапсаваны сшытак, і ён, не дапісаўшы яго да канца, кідаў і браў новы. Але з новым сшыткам выходзіла тое самае: зноў мазаніна, крывыя літары. І зноў прыходзілася браць новы.

II

Аднойчы тата спыніўся каля стала, за якім рабіў урокі Косцік. Узяў адкінуты сшытак.

— Бачу, сынок, не цэніш ты людской работы, — сказаў ён.

— Якая работа! — запярэчыў сын, — Колькі там той сшытак каштуе!

— Колькі каштуе, — паківаў з дакóрам галавою тата. — А ці ведаеш ты, колькі трэба працы, каб такі сшытак зрабіць?

— Падумаеш, — сказаў Косцік. — Некалькі лісткоў сашчапіць!..

— А як тыя лісткі робяцца, ты ведаеш?

— З паперы.

— Так, з паперы, а папера з чаго?

Косцік маўчаў.

— Папера з дрэва робіцца, — пачаў тлумачыць тата. — Значыць, каб сшытак зрабіць, трэба дрэва спілаваць... А каб дрэва спілаваць, бензапіла патрэбна... А пілу з металу робяць... А каб метал атрымаць, трэба спачатку руду знайсці... Потым вывезці яе з шахтаў на машынах, на цягніках... А машыны ды цягнікі таксама зрабіць трэба. Так што на твой сшытак сотні людзей працуюць, а можа, і тысячы. Геолагі руду шукаюць, сталявары метал выплаўляюць, рабочыя машыны робяць, машыністы ды шафёры водзяць цягнікі, самазвалы. А для той пілы, для самазвала

яшчэ і бензін патрэбен, значыць, і нафту трэба з зямлі здабыць...

Косцік слухаў тату і дзівіўся. Ён ніколі не думаў, што звычайны сшытак робяць так шмат людзей.

— А тое дрэва? — гаварыў тата. — Яно расло, можа, сто гадоў, а яго спілаваць трэба, завезці на фабрыку, каб паперу на твой сшытак зрабіць. У клетачку ці ў лінейку. А ты дапішаш сшытак да палавіны і выкідаеш... І новы пачынаеш...

III

«Цікава, — думаў Косцік. — Калі на звычайны сшытак працуе тысяча чалавек, то як жа на ўсё астатняе?» І ён спытаў:

— А штаны мае таксама многа людзей рабіла?

— Таксама, сынок, — адказаў тата. — Спачатку трэба было лён пасеяць ды даглядаць яго, каб вырас. Потым на станках ніткі сукаць, фарбаваць іх. З тых нітак тка-

ніну ткаць, потым на машынах з тканіны штаны шыць. А станкі ж ды машыны зноў з металу робяць, а метал — з руды... Усюды праца чалавечая, каб не яна, нічога не меў бы ты, а жыў бы як першабытны чалавек, у пячоры.

Косцік агледзеў свой стол. На ім ляжалі кніжкі, сшыткі, каляровыя алоўкі, ручка, лінейка. Ён узяў у рукі лінейку. І раптам уявіў, колькі людзей рабіла гэтую няхітрую прыладу. Асцярожна паклаў лінейку на стол, падсунуў да сябе недапісаны сшытак. І даў цвёрдае слова — пакуль гэтага не дапіша, новага не пачне.



Сяга́ць — заходзіць за якую-небудзь мяжу, узровень.
Дако́р — папрок, незадавальненне.



1. Чаму Косціку самому было брыдка глядзець на сапсаваны сшытак? Што ён рабіў са сшыткамі?
2. Што сказаў бацька сыну наконт адкінутага сшытка? Што на гэта адказаў хлопчык? Зачытайце.

3. Якую гісторыю расказаў бацька Косціку? Як паводзіў сябе хлопчык? Чым ён быў здзіўлены?
4. Які вывад для сябе зрабіў хлопчык? Пацвердзіце свае выказванні словамі з тэксту.
5. Знайдзіце ў тэксце словы, якімі б вы падпісалі малюнак.
6. Паразважайце над тым, чаму вучыць гэтае апавяданне.
7. Выберыце частку твора, якая найбольш вам спадабалася, і перакажыце яе.







Знайдзіце пяць адрозненняў.

## АМЯЛА

*Зоська Верас*

Сярод шэрых галін высокага дуба, абдзёртых асеннімі вятрамі да апошняга лісточка, здалёк кідаецца ў вочы нейкі жоўта-зялёны кусцік.

Гэта кусцік амялы, дзіўнай і цікавай раслінкі. Расце амяла ў нас найчасцей на дубах, ліпах, бярозах, соснах, елках, асінах, ляшчыне, дзікіх яблынях і грушах так высока, што і дастаць яе цяжка. Яна не стараецца сама для сябе аб спажыве, а карыстаецца гатовымі сокамі дрэва — свайго гаспадара. Галінкі яна мае дробныя, вілава́та падзеленыя. Лісточкі доўгія, вузкія, цвёрдыя, быццам скурай пакрытыя. Трымаюцца яны васямнаццаць месяцаў, захоўваючы свой светла-зялёны колер. І праз тое, што ўвесь час утвараюцца новыя лісточкі, куст амаль ніколі свайго прыгожага колеру не траціць.

Рана вясной, ужо ў сакавіку, у кутках галінак і паміж лісткамі з'яўляюцца дроб-

ныя жоўта-зялёныя, з прыемным пахам кветкі.

Ягады амялы спеюць вельмі памалу. Толькі ў кастрычніку або нават у снежні бываюць зусім спелымі і выглядаюць тады як маленькія, велічынёй з дробны гарох, белыя кулькі́, напоўненыя вельмі клейкім сокам. Гэтыя ягадкі з'яўляюцца найбольшым прысмакам амялу́шак. Амяла корміць іх, але не дарма. Мусяць яны ёй за корм аддзякаваць, рассяваючы зярняткі.

Зярняты амялы вельмі цвёрдыя. Птушкі іх не ядуць, а выкідаюць, старанна ачышчаючы дзюбкі аб кару дрэў. Зярняты ма-



юць кругом сябе клейкую масу, пры дапамозе якой прыклейваюцца да кары і тады выпускаюць маленькі карэньчык. Карэньчык выдзяляе сок, які раз’ядае кару. Утвараецца шчылінка, у якой і разрастаюцца карэньчыкі. На другі год зярнятка выпускае першыя галінкі, і разрастаецца куст.

Карэнне амялы запускаецца глыбока, часта да дзесяці сантыметраў, і вельмі шкодзіць дрэву.

У народзе з ягад амялы вырабляюць клей на мух. Лісце служыць лякарствам.



Вілава́ты — вілападобны, раздвоены.
Кулькі́ — невялікія мяшочкі.
Амялу́шка — невялікая птушка атрада вераб’іных, са стракатым апярэннем і чубком на галаве.





1. З якой дзіўнай раслінкай вы пазнаёміліся, прачытаўшы твор? Ці бачылі вы яе? Дзе?

2. Што нагадвае амяла? На якіх дрэвах яна расце? Што спажывае? Дакажыце словамі з тэксту.
3. Чым карысная амяла? Прачытайце.
*4. Апішыце амялу па плане.

План

1. Дзе расце амяла?
2. Якія ў яе галінкі, лісточкі, кветкі?
3. Якія ў амялы ягады, зярняты, карэньчыкі?
4. Як яна размнажаецца?

5. Прачытайце тэкст цалкам і падрыхтуйце апісанне галінак (I варыянт); ягад (II варыянт).

## ЗАЙКА І БОБІК

*Міхась Скрыпка*

На світанні між канаў
Зайка ў грады прыскакаў.
Смачны выбраўшы качан,
Грызці хуценька пачаў.



Але раптам Бобік — скок!
— Што тут робіш, абібок?
— Бобік, добры, пашкадуй,
Паспытаю і пайду.

— Падабру кажу — ідзі!
Ты ж капусту не садзіў!
Даць капусты не магу:
Я капусту сцерагу.



1. Які гэта твор – байка ці казка?
2. Якія словы рыфмуюцца?
3. Чаму Бобік не даў Зайку капусты?
4. Прачытайце тэкст па ролях.

**ЗІМОВЫ ДУБ**

*Клаўдзія Каліна*

Ідзе лесам Лістапад, лісце сыплецца, як град, сякуць дажджы касыя, шумяць вятрыскі злыя... Дрэвы нізка кланяюцца Лістападу, сцелюць да яго ног пажоўклае лісце. Адляцелі ў вырай птушкі, звяры пахаваліся ў зацішак, апусцелі палі.

Задаволены Лістапад: усё скары́лася яму. Усміхнуўся, паслаў на зямлю бледны сонечны прамень, глянуў з-за шэрых хмар лапінкай блакіту. Але што гэта? Вунь на ўзлессі раскінуў вецце магутны Дуб, увесь у мядзянай лістоце.

— Чаму ты не скарыўся мне? — грозна спытаў Лістапад.

— Я Зімовы. Таму да вясны буду ў мядзяным убранні.

Угневаўся Лістапад.

— Гэй, вятры буйныя! — паклікаў ён сваіх памочнікаў. — Сарвіце з Дуба яго мядзяны ўбор!

Завылі вятры, зашумелі галіны Дуба.

— Гэй, дажджы халодныя! — гукнуў Лістапад. — Пазбівайце з Дуба лісце.

Секанулі дажджы, забарабанілі па буйным лісці, але Дуб не зварухнуўся.

— Гэй, браце Снежань! — загукаў Лістапад. — Прышлі мне марозу пякучага,



завеяў сыпучых, няхай замарозяць, засыплюць снегам непакорнага!

Прымчалі маразы, прыляцелі завеі, марозілі, снегам секлі, але не скарыўся Дуб.

Спахмурнеў Лістапад і адступіўся ад цара лесу... Усю зіму стаіць Дуб у сваім мядзяным адзенні. Толькі вясною ненадоўга скідае яго, каб пераапрануцца ў новае, зялёнае. За гэта называюць яго Зімовым Дубам.



Скары́цца — пакарыцца, падпарадкавацца.



1. Што гэта за тэкст: апавяданне, казка, байка?
2. Чаму аўтар даў твору такую назву? Пацвердзіце свае думкі словамі з тэксту.
3. Да каго звяртаўся Лістапад, каб прымусіць Дуб скінуць свой убор? Знайдзіце ў тэксце сказы, у якіх апісваецца тое, што адбывалася ў прыродзе.
4. Чаму адступіўся Лістапад ад цара лесу?
5. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
6. Зрабіце малюнкі да тэксту.

## ЛІСТАПАД

*Станіслаў Шушкевіч*

**Пэўна, сонца знемагло́ся,**
**Адпачыць пайшло за хмары,**
І паўзе павольна восень
Праз іржышчы і папа́ры.

І ад холаду рабіна
Чырванее, нізка гнецца,
**Паляцелі гусі клінам,**
**Каб у выраі пагрэцца.**



Знемагло́ся — страціла сілы, аслабела.
Папа́р — поле, пакінутае на адно лета незасеяным.



1. Якім паказаны лістапад у вершы?
2. Адзначце найбольш трапныя словы, якія апісваюць лістапад, і зачытайце іх.

*3. Якія пачуцці выклікае ў вас чытанне выдзеленых слоў?

4. Прачытайце верш самі сабе, а потым уголас – хорам.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ЗАДАЧКА

Сцэнка

*Васіль Ткачоў*

Дзеючыя асобы

М і ш а.
К а ц я.
А л і к.
І х а д н а к л а с н і к і.

Школьны клас. Перад пачаткам заняткаў прыбягае, запыхаўшыся, М і ш а.

М і ш а. Хто задачку рашыў? *(Паўза.)* Сябры, ну хутчэй жа вы, хутчэй! Заняткі вось-вось пачнуцца!

К а ц я *(горда)*. Я рашыла!

М і ш а. Дай спісаць!

К а ц я. Чаму сам не рашыў?

М і ш а. Часу не было...

К а ц я. Што ж ты рабіў, цікава?

М і ш а *(ухіляецца ад адказу)*. Ды я... Галава балела. Паспрабуй рашы, калі баліць галава.

К а ц я. Раскажы ўмову.

М і ш а *(паглядзеў на падручнік, потым перавёў збянтэжаны позірк на Кацю, на аднакласнікаў)*. І ўмова не запомнілася. Што, думаеце, лёгка было запомніць, калі галава балела?

З'яўляецца А л і к, заўзяты балельшчык. Адразу ж падыходзіць да натоўпу, што сабраўся каля Мішы.

А л і к *(працягнуў Мішу руку, гучна)*. Віншую!

Міша адвярнуўся.



А л і к *(здзіўлена)*. Чаго гэта ён?

Аднакласнікі разводзяць рукамі: таксама нічога не разумеюць.

А л і к. Эх, ганарлівец! Ніколі б не падумаў, што ты такі, Міша. Учора галавой забіў тры галы ў вароты «Ракеты» — і ўжо размаўляць не хочаш.

Аднакласнікі засмяяліся. Толькі Мішу было не да смеху.



1. Куды прыбег Міша перад пачаткам заняткаў?
2. Што ён прасіў у сяброў?
3. Чаму Міша не рашыў задачку?
4. Чаму аднакласнікі смяяліся, а Мішу было не да смеху?
5. Перакажыце тэкст па плане.

План

1. «Хто задачку рашыў?»
2. «Галава балела...»
3. «Эх, ганарлівец!»

6. Прачытайце тэкст па асобах і праінсцэніруйце яго.



Разгледзьце малюнак. Раскажыце, што вы на ім бачыце. Адкажыце на пытанні:

1. Што робяць пешаходы на малюнку?
2. Што абазначае чырвонае святло?
3. Што абазначае зялёнае святло?
4. Што трэба ведаць, каб перайсці дарогу?
5. Раскажыце, як вы пераходзіце дарогу.
6. Складзіце невялікае апавяданне «На скрыжаванні дарог».



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«І восень на прызбу ступіла...»**.

1. Назавіце аўтараў наступных радкоў:
   а) «Замірае лета,
   Заціхаюць далі...»;
   б) «Пэўна, сонца знемаглося,
   Адпачыць пайшло за хмары...»;
   в) «Ой ты, Юрачка,
   Што не вучышся?..»;
   г) «Ты падумай і скажы:
   Колькі кошак у кашы?..»;
   д) «Восень, восень залатая
   Сее радасць на зямлі...».
2. З якіх вершаў узяты радкі:
   а) «Адшумела лета
   Роснымі лугамі...»;
   б) «У верасні,
   у верасні
   хапае ўсім турбот...»;
   в) «Пахне
   хлебная скарынка
   цёплым ветрыкам,
   хваінкай...»;

г) «Захварэў раптоўна,
Захварэў сур'ёзна...»?
3. Пазнайце героя па яго выказванні:
а) «— Даруй мне, Рубік... Я болей не буду...»;
б) «Сарву шышачку — што ў кішэню, а што — у рот...»;
в) «— Я сама знайшла яго! Праўда?..».
4. Прыгадайце казку «Каток і мышка» Леаніда Улашчанкі. Перакажыце яе.
5. Адгадайце, хто пра каго што гаворыць:
а) «Эх, ганарлівец! Ніколі б не падумаў, што ты такі...»;
б) «— Крыўдна мне за цябе, сынок...»;
в) «— Бачу, сынок, не цэніш ты людской работы...»;
г) «— Што тут робіш, абібок?».
6. Якія тэксты найбольш вам спадабаліся ў раздзеле «І восень на прызбу ступіла...»? Назавіце іх.
7. Правядзіце конкурс на лепшага чытальніка вершаў з раздзела «І восень на прызбу ступіла...».

8. Успомніце творы, з якіх узяты малюнкі. Назавіце іх.





9. Праінсцэніруйце сцэнку «Задачка».
10. Зрабіце малюнкі да твора, які вам найбольш спадабаўся.

## АДГАДКІ

С. 6. Зямля.

С. 33. Соль. Рэшата. Акуляры. Хмара. Ноч. Сонца і месяц. Сонца.

С. 34. Месяц. Рэха. Чарапаха. Шчотка. Сонца. Вада. Вецер. Хмара.

С. 35. Мароз. Новы год. На шыю. Мокры. Без стуку. Пад мокрым.

С. 36. Чатыры. Пяць і сем. Настаўнік. Каляндар.

С. 55. Школа.

С. 88. Кот.

# ЗМЕСТ

## Зямля бацькоўская, святая...



## Душа народа ў песнях, казках тых жыве...

## І восень на прызбу ступіла...

